Цана асобнага нумару 1000 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **10.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 2500 мк., сярод тэксту 2000 м. і на 4 стр. 1500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 3 — Серада, 13-га чэрвеня 1923 г. — Год I.

## Першыя крокі правага ураду.

Калі паднялася думка ўтварэньня правага ўраду з учасьцем партыі „Пяст“, усім было ясна, па якой дарозе пойдзе новы ўрад. I прароцтвы левае прэссы споўніліся вельмі хутка.

На першым месцы стаіць справа правядзеньня праз сойм новага дэкрэту аб абароне кватэрантаў. Хаця гэты дэкрэт будзе бараніць не кватэрантаў, а камянічнікаў (прыкл. за кватэру з 3 пакояў трэба будзе плаціць 800,000 марак за месяц!), урадовыя партыі стараюцца чым хутчэй правясьці яго ў жыцьцё.

Далей, новы ўрад зьбіраецца правясьці поўнае падчыненьне школаў палітычнай уладзе. Проці гэтага выступіў з вострым пратэстам сэнатар Новак, лічучы праект ураду згубным для школы, асабліва дзеля народнае школы.

Урэшце, самы склад ураду выклікаў вострыя пратэсты ня толькі левых, але і аднапартыйцаў пана Вітаса. Левыя газэты пачалі паход проці міністра заграмічных справаў, Сэйды, і надрукавалі дакумэнт, што ў часе вайны ён даваў француcкаму ўраду інфармацыі аб тым, хто з французкіх і расейскіх дыпляматаў бываў у палюбоўніцы графа Колёрадо ў Швайцарыі, да якое адначасна прыходзілі і аўстрыяцкія дыпляматы. А проці міністра ўнутраных справаў, Керніка, выступіў пястоўскі сэнатар Кржыжаноўскі, з Вільні, называючы ўвесь урад і міністра гэнага „фатальным“. Сэнатар Кржыжаноўскі ў сваей прамове ў сэнаце, паміж іншым, дасловна заявіў: „Як прадстаўнік акраін („Kresów“), я высказваю баязьнь, што новы ўрад пойдзе проці нацыянальных меншасьцяў, якія жывуць на „Kresach“, асабліва-ж проці беларусаў, якіх тамака 70 процэнтаў“.

Як бачым, першыя крокі правага ўраду вызываюць страх за будучыню ня толькі сярод шырокіх народных масаў, якім беспасярэдня пагражаюць, але і сярод учарашніх партыйных таварышаў пана Вітаса.

Як гэта ўсё адбіваецца на інтарэсах Польшчы паказвае новы ўпадак цэннасьці маркі, раўнуючы да заграмічных валют. Цана даляра з 52.000 марак паднялася ажно да 75 т. марак за некалькі дзён урадаваньня ўраду пана Вітаса. Ведама, міністэрства фінансаў не пашкадуе грошы, каб падняць курс польскай маркі на заграмічных біржах, але, пакуль удасца спыніць штадзенны ўпадка польскае валюты, народ і дзяржава страцяць міліярды, якія спынуцца ў кішані капіталістаў „сваіх“ і замежных. Дый штучнае падыйманьне курсу маркі абойдзецца вельмі дорога; мы ўжо мелі прыклад за часоў міністра фінансаў Міхальскага, каторы на гэта аддаў беспаваротна львіную частку „даніны“...

**аль.**

## У справе арышту беларускага пасла Сяргея Барана.

Пасьля пастановы Беластоцкага суда за пaслом Бараном сачыла некалькі цывільных асобаў, мусіць з тайнай паліцыі. Паскольку, згодна кансытуцыі, асоба дэпутата ёсьць недатычнай да часу выдачы яго праз самы Сойм, пасол Баран і пасьля суда вольна жыў ў Варшаве і ў Горадні, бываў на паседжаньнях Сойму, 7 гэтага чэрвеня быў прысутным ў Найвышэйшым Судзе, дзе разьбіралася яго справа, як заквестыянаванага, наконта устанаўленьня яго obywatelstwa. Самая справа гэтая пастановай Суду адкладзена.

Пасол Баран у пятніцу 8 чэрвеня выехаў з Варшавы ў Горадню, дзе ў суботу 9. VI, як старшыня Горадзенскага Аддзелу Беларускага Таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны, правёў значную частку дня ў прытулку для беларускіх дзяцей-сірот (па вул. Мастовай № 9), якім апекаваўся ён увесь час да выбараў ў Сойм і ў часе свайго дэпутатства.

Варочаючыся з прытулку да сябе на кватэру на вул. Разьніцкую, ён быў абкружаны на Грандзіцкай вуліцы чатырма паліцыянтамі, якія, ня гледзячы на яго пратэсты, адвялі яго ў Камэндантуру Горадзенскай паліцыі. Там яму было абвешчана, што ён не арыштаваны, а толькі „затрыманы“, але адабралі ад яго ўсё — грошы, паперы, дакуманты. А 10 гадзіне ўвечары камэндант паліцыі, два паліцэйскія камісары і некалькі тайных агентаў адвялі пасла Сяргея Барана на Кірховую вуліцу да Urzędu Sledczego, ў палітычна—крымінальны аддзел, дзе пад усілёнай вартай пратрымалі яго ўсю ноч у брудным памешканьні „прэдварылкі“.

У нядзелю 10 гэтага чэрвеня а 2 гадзіне ў дзень той-жа камэндант паліцыі разам з двума камісарамі адвялі Барана на вакзал і адаслалі яго пад канвоем ў Беласток, у вастрог.

Увесь прабег арышту пасла Барана пішым са словаў навочных сьведак яго арышту, якім удалося абмяняцца з ім некалькімі словамі пры яго прымусовым пераходзе з Комэндатуры паліцыі ў Urzęd Sledczy і адтуль на вакзал.

Ня можым ня выразіць свайго абурэньня з прычыны гэткага грубага нарушэньня права аб дэпутатскай недатычнасьці, якое стала шануецца ўва ўсіх культурных дзяржавах. Не хацелася-б думаць, каб прыказ аб арышце пасла Барана паходзіў ад цэнтральнае адміністрацыйнае ўлады. Трэба думаць, што Горадзенскія ўрадоўцы зрабілі гэта на ўласную руку і, як нарушыўшыя закон, павінны быць пакараны.

Цікава, як зарэагуе Сойм за паняверу, учыненую яму паліцэйскімі, ці ўшануе народнае прастаўніцтва, ці ачысьціць Польшчу ад паліцэйскай самаволі.

## Палітычныя падзеі.

### Паварот англійскае палітыкі.

(Ад нашага парыжскага кар спандэнта).

У прыватнай гутарцы, якую мне давялося мець гэтымі днямі з прадстаўніком аднае з антанцкіх дзяржаваў у Лізе Нацыяў, апошні, панізіўшы голас, сказаў прыблізна гэтак:

„Нам ужо па горла здакучыла Францыя з усімі сваімі дамаганьнямі і жаданьнем зьніштожыць Нямеччыну да званьня! Французы хочуць, каб мы памаглі ім заняць першае месца ў Эўропе. Але гэта—больш, чым наіўнасьць! Дый пара ўжо завясьці ў Эўропе запраўдны мір: мы ўсе замарыліся ад таго напружанага палітычнага палажэньня, якое падтрымлівае ўвесь час Францыя“.

Гэтыя словы паважнага дыплямата дужа добра характэрызуць настрої, бадай усіх антанцкіх урадаў. Дый не адных толькі ўрадаў, а і шырокіх кругоў грамадзянства. Настроі гэныя найбольш ярка выяўляюцца ў сучаснай палітыцы Англіі — тае дзяржавы, ад становішча якое запраўды будзе залежаць адказ на пытаньне: ці Францыі удасца заняць першае месца ў жыцьці народаў Эўропы, ці пляны яе аб гэгемоніі на кантынэнце разьвеюцца, як дым.

Палажэньне ў Эўропе ў сувязі з няўстаннымі пагрозамі новай вайной запраўды сталося несьцярпімым. Утрымліваньне напагатові армій дзеля таго, што Францыя ня можа згаварыцца з Нямеччынай, сур'ёзная пагроза камуністычным пераваротам у Нямеччыне ў сувязі з немагчымасьцю дапусьціць усё далейшае пашырэньне на нямецкай зямлі францускае акупацыі, пагроза пашырэньня з Нямеччыны „камуністычнае заразы“ на ўвесь Заход—усё гэта лішне дорага каштуе народам, якія хацелі-бы ўрэшце аддаць ізноў свае сілы творчай культурнай працы.

Вось чаму новы англійскі ўрад пачаў крокі, якія кіруюцца да разьвязаньня н канчаючайся спorкі паміж Францыяй і Нямеччынай аб „рэпарацыях“. I трэба думаць, што крокі Англіі або давядуць гэту справу да канца, або ў вельмі яркай форме раскрыюць закрываныя дагэтуль супярэчнасьці паміж імкненьнямі Францыі і інтарэсамі яе саюзьніцы Англіі. У апошнім прыпадку ўся палітычная фізіяномія Эўропы павінна будзе так, ці сяк адмяніцца, і мы або дачакаемся запраўднага міру, або будзем сьведкамі новага змаганьня паміж Францыяй і Нямеччынай, але ўжо бяз учасьця і ў самай барацьбе, і ў адказнасьці за яе англійскага народу.

**Кандратовіч**

**Баўгарыя.** Арганізацыя афіцэраў-рэзэрвістаў пры дапамозе чыннае арміі даканала палітычнага перавароту. Усе міністры арыштаваны. Утвораны новы ўрад, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі апазацыйных партый выключаючы камуністаў. Правінцыяльныя гарнізоны далучыліся да „рэвалюцыйнага“ руху, зробленага ў шклянцы вады.

**Францыя.** Пуанкарэ выступіў у фінансавай і заграмічнай камісьях Сэнату з дамаганьнямі новых крэдытаў на акупацыю Рурскага басэйну, а таксама даў справаздачу аб нарадах у Бруксэлі. Пры гэтым Пуанкарэ заявіў, што францускі і бэльгійскі ўрады ня будуць разглядаць ніякай нямецкай прапазыцыі, пакуль немцы не адмовяцца ад пасыўнага спраціву ў Рурскай вобласьці.

**Польшча.** Ня гледзячы на тое, што ўрад „czysto polskiej większości“ дапяў ўлады, фінансавае становішча Польшчы ні на каплю не палепшылася. Спадак маркі йдзе шыбчэй, чым пры ўрадзе Сікорскага. Курс польскага злотага устаноўлены з 11-га чэрвеня 12000 марак.

Эндэцка-пястоўская большасьць адкінула сьпешнасьць прапазыцыі пасла Прылуцкага ў школьнай справе для нацыянальных меншасьцей, якая дамагалася, каб урад у працягу 10 дзён прадставіў Сойму адпаведныя праекты. Як ведама Сойм яшчэ ў сакавіку вынес рэзалюцыю, каб урад як найхутчэй апрацаваў гэткую уставу, але да гэтагу часу яшчэ нічога ня зроблена.

Начальнікам Генаральнага Штабу назначаны ген. Стэніслаў Галлер, брат ген. Яз. Галлера, аднаго з выдатнейшых паслоў Хьены.

У „Dzienniku Ustaw“ абвешчана устава аб прызнаньні крэдытаў для асаднікаў.

ная. За малым выключэньнем яны працуюць толькі за грошы, дзеля грошаў. Аб духовым разьвіцьці, аб выханьні барацьбістаў у агульна людзкім зразуменьню ня можа быць гутаркі. Наадварот, вядзецца пляновае атручываньне душы дзіцячай нацыянальным антаганізмам, прышчэпляецца панская ідэалёгія, ачмучываюцца шовінізмам.

Вынікі ад такога навучаньня будуць вельмі сумныя для дзьвух старон.

Што думаюць сабе польскія школьныя кіраўнікі?! Гэта-ж кожнаму, у каго больш менш працуець розум, выразна зразумела, што такая школа ня можа прывіцца беларускаму народу, што гэта ня ёсьць школа, а фабрыка гура-патрыотаў, калечаньне дзяцей, што прыйдзе час, калі здаровыя інстынкты працоўнага народу змушаны будуць даць адпор, каб захаваць сваю жыцьцёвасьць, сваю праўду.

**Р. Юргілевіч.**

# З Польскага Сойму.

### Што і калі будзе слушнае?

Недаўна пасол Прылуцкі выступіў у Сойме з прамовай патрэбуючы родных школ для меншасьцей. З пратэстам выступіў адзін з паслоў правіцы, які зазначыў, што гэтыя вымаганьні **ня слушныя** і польская „większość" (з яе складаецца цяперашні ўрад) вітала свайго прамоўцу воплескамі.

Дык што-ж пане Вітас, аб якой жа гэта **слушнасьці** вы заікаліся ў сваім экспозэ?

### ПРАПАЗЫЦЫЯ

Паслоў Беларускага Клюбу ў справе найхутчэйшага адбудаваньня тэрыторыяў, зьнішчаных за вайну на Беларускіх землях.

Войны апошніх гадоў, якія вяліся на Беларускіх землях, ў іншых мяйсцох дашчэнту зруйнавалі гарады, мястэчкі і вёскі.

Тыяж самыя войны дзякуючы загадам бышага расейскага царскага ўраду, больш мільёну спакойных грамадзян, галоўным чынам сялян з Горадзеншчыны, змусілі пакінуць родныя гнёзды і выехаць у Расію. Цяпер тыя няшчасныя масамі варочаюцца назад, але сваіх часта не находзяць і сьледу сваіх родных сядзіб. Амаль чуць ня ўсе змушаны шукаць прытулку ў зямлянках, зносючы фізычнае і маральнае цярненьне. Заразныя хваробы сярод тых людзей знаходзяць лёгкі грунт і робяць там страшныя спусташэньні. Крокі ўраду ў напрамку адбудовы ўспомненых тэрыторыяў, такія нязначныя, што да цяперашняга часу задаволена толькі 30% пашкадаваных. Бюрократызм і мляўкасьць Бюро Адбудовы зайшлі так далёка, што іх „дапамога" ёсьць пародзія ўсялякой праўдзівай дапамогі. Ніжэй паданыя факты як найлепш пацьвердзяць вышэй сказанае.

У Вялейскім пав., Даўгінаўскай вол. вёска Камена ў 1915 гаду была зусім зьнішчана. Часьціна зьнішчаных гаспадарак была адбудована ўласнымі срэдствамі рэшта-ж аж да сягоняшняга дня змушана астацца ў зямлянках. Паміма вялікіх стараньняў у Старостве і Бюро Адбудовы ў Вялейцы павятовай пашкадаваныя ня могуць дастаць патрэбнага дрэва для адбудовы сваіх сядзібаў. На цэлым абшары бышай франтовай паласы ў паветах Браслаўскім, Сьвянцянскім, Дунілавіцкі, Ашмянскім, Валожынскім, Стаўпецкім, Баранавіцкім, Луненецкім, Горадзенскім і інш. працы Бюро Адбудовы амаль што нявідаць. Некатарым пашкадаваным выданы праўду квіткі на атрыманьне матэр'ялу для будовы, але яны з дакляраванага можна сказаць нічога не атрымалі.

Зазначыць, трэба так-сама, што і тыя шчасьліўцы атрымоўваюць звычайна ледзьве 1/3 часьць патрэбнага матэр'ялу часта нягоднага да ўжытку на адбудову. А іншыя матэр'ялы да адбудовы, як шкла, вапны і інш. Бюро Адбудовы не даець зусім пашкадаваным. Адным словам дзяржаўная дапамога такая нязначная, што нават не хваціць пашкадаваным на збудаваньне звычайных зямлянак. Дзякуючы такім абставінам сярод беларускага сялянства ўтварылася жудаснае становішча, якое калі патрываець далей можыць прывясьці да вельмі непажаданых вынікаў. Дзеле таго, маючы на увазе, дабро асабістае тых нешчасьлівых афяраў паваенных, як роўна-ж дабро Рэспублікі, датыхчасовая мляўкасьць Бюро Адбудовы павінна быць паканана і Урад павінен як найхутчэйразшырыцьдзейнасьць дапамогі пашкадаваным у сапраўднасьці, а не на паперы.

А дзеля таго: Высокі Сойм хай неадмовіць ухваліць:

1) Выдзяліь спэцыяльную Камісію Соймавую з удзелам прадстаўнікоў Беларускага Клюбу з мэтай дасьледаваньня на мейсцу фактычнага становішча адбудовы на тэрыторыях Беларускіх зямель, зьнішчаных вайной.

2) Паклікаць Урад, каб як найспаўней распарадкаваўся праз Бюры Адбудовы з выдаваньнем адпаведнага будаўлянага матэрялу з найбліжэйшых лясоў як прыватных, так і урадовых.

Варшава.
Д. 13. V. 1923 г.

# Заблыканыя.

У Ваўкавыскім старостве да гэтага часу пададзена сялянамі да 15000 заяў аб дазволе выезду ў Савецкую Беларусь і іншыя савецкія рэспублікі.

Гэтая кароткая вестка сьведчыць аб тым, што пачалася зваротная хваля так званых бежанцаў, павыганяных з краю царскімі папіхачамі ў часы імпэрыялістычнай вайны.

Намучаныя грамадзкай вайной, голадам, холадам у непрыветных Туркестане, Паволжыю і друг. кожны з іх імкнуўся вярнуцца на бацькаўшчыну да сваіх родных кутоў. Перамагаліся ўсе перашкоды, складалі ў ахвяру сваю маемасьць і здароўе, пераходзілі дакучлівыя рэгістрацыі і бесканечныя фармальнасьці прыгранічных улад, каб толькі як давалачыцца да сваіх загонаў, да пастаяннага, супакойнага жыцьця.

Але бадай, усе прыехаўшыя найшлі свае сядзібы пазаніманыя чужымі людзьмі і асаднікамі, бо быў такі закон, што хто да вядомага часу ня верніцца, той траціць сваё уладаньне на зямлю; найшлі будыніну ў руінах, бо ўстановы па адбудове краю перш клапоцяцца аб польскай люднасьці і так працуюць мляўка, што паслам прыходзіцца падаваць сойму прапазыцыі, каб вывясьці іх з бясчыннасьці.

Нямала было апісана фактаў у нашых газэтах аб злыбядзе гэтых няшчасных, якія на сваей бацькаўшчыне сталі чужымі, непатрэбнымі, жабракамі.

Хваля ўдарылася ў скалісты бераг жорсткага капіталізму і адплывае назад...

15000 заяў у адным старостве...

**Ю.**

# З усяе Беларусі.

### Лесу на адбудову не даюць.

У вёсцы Грынеўшчына, Парфенаўскай гміны, Дунілаўскага павету жывець удава Аміля Курушко, якая яшчэ ў 1921 г. мела новы зруб на хату. Але ў той час стаялі польскія жаўнеры, якія і спалілі гэты зруб. Цяпер Курушко жывець у чужой хаце. Колькі разаў яна зьвярталася за дапамогай да Бюро Адбудовы ў Глыбокім, была і ў старостве Дунілавіцкім, усё бескарысна—хаты ня мае і ма быць ня будзе мець.

**А. К—ік.**

### М. Жодзішкі. Сьвянцянскага пав.

У нядзелю 10 чэрвеня былі ў нас паслы Кс. Станкевіч і Ярэміч. Народу зьехалася як ніколі, бо быў кірмаш і шмат хто чуў што прыедуць беларускія паслы. Прамовы паслоў народ слухаў з вялікай увагай, а пасьля заканчэньня горача вітаў сваіх выбранцаў. З усіх бакоў пасыпаліся жалабы і заявы аб крыўдах адміністрацыі, аб сэрвітутах, школах, падатках ды ўсяго і не пералічыш. Месяц таму назад Кс. Станкевіч быў у адміністратараў у Жодзішках і адзначыў іхнія непарадкі, на што атрымаў абецанкі, што будзе усё наладжана. Так яно ў нас ад малага да вялікага збываюць усё абецанкамі.

Прыезд паслоў у нашае мястэчка падняў дух і бадзёрнасьць у нашых сялян, якія сядзяць тут, як мыш пад мятлой. Наша просьба і пажаданьне, каб паслы часьцей да нас заглядалі, дык і мы будзем дужэйшымі і паслы больш рашучымі.

**Янка з Жодзішак.**

### З Ваукавыскага павету.

Доўга я прыгледаўся, што робіцца ў нашым павеце, прыгледаўся і раздумываў, дзе жывець праўда, а дзе пануе крыўда, хто вінаваты, а хто праў і перакнаўся, што праўда недзе ёсьць у паперах напісана і ляжыць „пад сукном", а крыўда пануе па павеце, бо яе падтрымоўваець шмат хто з дробнай мясцовай адміністрацыі.

У месяцы красавіку ўсіх сталадзенных рабочых на чугунцы ад Ваўкавыска да Чарэмхі вызывалі на экзамен. На экзаменах менш пыталі аб навуцы, аб тым: „jakiego wyznania, jakiej narodowości, jak dawno pracuje na kolei" і г. д.

Пасьля экзаменаў прышоў загад звольніць 250 сталадзённых рабочых; звольненыя працавалі ўжо па гадоў 10-15 на чугунцы, але ўсё праваслаўныя беларусы.

Цяпер гэтыя рабочыя са сваімі семьямі альбо галадаюць, бо працу ім з niekatolickim wyznaniem трудна дастаць, альбо прадаюцца лясным эксплёататарам. Кажуць, што на іх месца прымаюць пазнаньчыкаў.

Цікава тое, што сярод вытрымаўшых ёсьць два каталікі Богатыревіч і Грык, якія нядаўна паступілі на службу і зусім ня пісьменныя, бо як атрымліваюць пэнсію, дык нават распісацца ня ўмеюць, а ставяць крыжыкі.

**Эгэм.**

### Камісія беларусазнауства.

(Слуцак).

На апошнім сваім пасяджэньні Слуцкая камісія беларусазнаўства назначыла некалькі чарговых дакладчыкаў на маючых адбыцца сходах культурнікаў у Слуцку на тэмы: „Аповесьць і раман у беларускай літэратуры", „Беларусізацыя ці новая школа" і інш. Яна адчыніла курсы беларусазнаўства для дашкольнікаў першага і другога дзіцячых беларускіх дамоў, распрацавала плян экскурсій школьнікаў.

### Будаунічы тэхнікум.

(Слуцак).

Будаўнічы тэхнікум, які істнуе ў м. Слуцку ўжо шосты год, распачаў вясновы будаўнічы практыканскі сэзон. Студэнты пад кіраўніцтвам дырэктара тэхнікуму Янісласкага будуюць масты ў м. Слуцку. Ужо канчаюць другі. Дзеля таго, што тэхнікуму не дапамагаюць нічым ніякія ўстановы і ён матэр'яльна заняпаў трохі, студэнты не карыстаюцца наёмнай працай, а самі робяць ўсё, нават самую чорную работу. Такім парадкам будучыя будаўнікі ня толькі будуць умець рабіць пляны, але будуць і фізычна працаваць.

### Сем'і рэзэрвістау маюць права на дапамогу.

Згодна ўхвалы Сойму, сем'і рэзэрвістаў маюць ў працягу месяга ад дня пакліканьня да войска мужа, брата ці сына, дамагацца ад гмін грашовай дапамогі на пражыцьцё, ці на падтрыманьня гаспадаркі. У выпадку адмовы гміны ў дапамозе трэба ўнясьці скаргу да Староства.

# З Беларускага Жыцьця.

**Канфіскаты.** Па загаду Камісара ўраду гор. Вільня сканфіскавана № 2 „Нашага Сьцягу" і паэму „Уяўленьне" Уладзімера Жылкі.. № 1 „Нашага Сьцягу" быў зданы на пошту, але шмат хто з падпішчыкаў зусім ня атрымаў. Як пасьля выясьнілася, дык № 1 быў таксама сканфіскаваны, але рэдакцыю чамусьці аб гэтым не паведамілі.

10-га чэрвеня ў Залі Драматычнае Майстроўні адбыўся вечар ладжаны Бацькаўскім Камітэтам пры Вілен. Бел. Гімназіі на карысьць незаможных вучняў. Вечар быў людны, гулялі да раніцы. З праграмы асабліва спадабалася пяяньне артысткі Бэер.

У вёсцы Забрэзьзе, Валожынскага п. 10-га траўня паліцыя арыштавала двух сялян і гр. Заблоцкага, які месяц таму назад адседзіў ужо 4 месяцы вастрогу за праўду, якую любіў казаць у вочы крыўдзіцелям беларускага народу. Закаваўшы іх у кайданы дзевяць паліцэйскіх пагналі пехатой шаснаццаць вёрст у Валожын.

У Радашкаўскай Беларускай Гімназіі 19-га чэрвеня пачнуцца ўступныя экзамены.

Педагогамі і вучнямі Радашкоўскай гімназіі ладзіцца беларуская вечарына на 17-га чэрвеня. Пастаўлена будзе „На Папасе" Янкі Купала", „На вёсцы" Аляхновіча і „П. С. Х." Сучаснага.

### Зьезд паўнамоцнікаў Віленскага Саюза Каапэратываў.

На 23 чэрвеня склікаюцца на IV зьезд усіх паўнамоцнікі Віленскага Саюза Каапэратываў, які мае адбыцца ў Вільні ў памешканьні Саюза на Віленскай вуліцы № 12 пам. 1.

Калі ў назначаны час не зьбярэцца належнага ліку прадстаўнікаў, дык праз дзьве гадзіны таго-ж дня зьезд будзе адчынены.

Маючы на ўвазе важныя справы на парадку дня Управа Саюзу просіць паўнамоцнікаў усім прыехаць на зьезд.

### Беларускі вечар у Нясьвіжы.

У суботу, 2-га чэрвеня ў Нясьвіжы адбылася беларуская вечарына на карысьць незаможных вучняў Нясьвіжскай беларускай гімназіі.

Спачатку згулялі пьесу Аляховіча: „Дзядзька Якуб." Усе ролі праведзены ўдала, а галоўную — Якуба- вучань Пазьняк згуляў па мастяцку. Сьпевы у пьесе так сама ўдаліся. Затым выступіў беларускі хор у беларускіх нацыянальных вопратках, пад кіраўніцтвам настаўніка гімназіі Я. Шнаркевіча, Глыбокае ўражэньне зрабіў беларускі гымн „Не пагаснуць зоркі ў небе". Публіка, як адзін чалавек, паднялася і стоючы выслухала магутныя словы паэта-прарока лепшай долі для беларускага народу — Янкі Купалы. Затым пяяліся народныя песьні гарманізацыі нашага выдатнага кампазытара Тэраўскага Песьні: „О ня кукуй зязюленька рана" і „Пісар гусі ганяе," якія паўтаралісь шмат разоў пад гучныя воплескі публікі.

З напружаным зацікаўленьнем слухалася дэкламацыя. Верш Купалы „Над Нёмнам" захапіў глыбока сялян. Яны аб ім гаварылі і пасьля вечара. Танцы пачаліся „Лявоніхай."

Заля была набіта бітком. Вечар даў добры зыск. Наогул, беларускі вечар у Нясьвіжы паказаў усім хараство беларускага слова, сьпеваў і вопраткаў.

Трэба сказаць шчырае дзякуй усім, хто працаваў для вечара. Нясьвіжская беларуская гімназія паказала сваю глыбока-ідэйную нацыянальна-культурную працу.

# Беларусы у Празе.

(ад уласнага карэспандэнта).

Беларускае студэнцтва ў Празе падзялілася на дзьве групы: а) Аб'еднаньне Беларускага Паступовага

